


# Наша слова




**ПАКЛОНІМСЯ СВЯТОМУ ВАЛУНУ** *Стар.3.*

**ПОЛЬСКІЯ ДАКУМЕНТЫ СВЕДЧАЦЬ...** *Стар.4.*

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 45 (309)** 6 — 13 лістапада 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У Празе ўстаноўлены помнік Францішку Скарыну**, а таксама мемарыяльная дошка ў яго гонар. На ўрачыстым адкрыцці помніка прысутнічала ўрадавая дэлегацыя нашай краіны на чале з намеснікам прэм'ер-міністра У.Русакевічам.

○ ***Сумесную акцыю па зборы подпісаў грамадзян у абарону канстытуцыйнага права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове працягваюць Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы.*** *Сярод асноўных патрабаванняў — стварэнне беларускамоўных падручнікаў па ўсіх дысцыплінах ВНУ, а таксама адкрыццё хаця б аднаго універсітэта цалкам з беларускай мовай навучання. Па словах віцэ- прэзідэнта ТБШ Алеся Лозкі, акцыя па зборы подпісаў павінна скончыцца недзе да пачатку новага года. Сабраныя подпісы будуць накіраваныя ў Міністэрства адукацыі і навукі, Вярхоўны Савет і Адміністрацыю Прэзідэнта.*

○ **27 лістапада ў Менску адбудзецца "круглы стол" па рэформе агульнаадукацыйнай сярэдняй школы.** Чакаецца, што сваімі думкамі аб далейшым лёсе школы абмяняюцца настаўнікі, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і Міністэрства адукацыі, а таксама дэпутаты Вярхоўнага Савета.

○ ***У друку з'явіліся звесткі****, па якіх у нашай краіне існуе 918 праваслаўных прыходаў, 360 рымска-каталіцкіх, 31 стараабрадны, 16 новаапостальскіх, 11 грэка-каталіцкіх, 11 абшчын сведкаў Іеговы. Існуюць рэлігійныя абшчыны баптыстаў, кальвіністаў, евангелістаў, мармонаў, паслядоўнікаў розных адгалінаванняў замежнай праваслаўнай царквы. Падрабязней пра ўсё гэта можна пачытаць у штогадовай Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці "Беларусь: асяроддзе для чалавека", распрацаванай групай незалежных беларускіх экспертаў пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. На жаль, мала хто з іх успамінае пра Боскі дар беларусам — уласную мову.*

○ **Па прагнозах спецыялістаў ААН**, да 2000 года практычна кожная другая сям'я ў Беларусі будзе мець уласны легкавы аўтамабіль. Можа быць, калі ААН раздасць бясплатна аўтамабілі, у каго іх няма, бо на сённяшні дзень у нас, відаць, кожная другая сям'я думае пра тое, як звесці канцы з канцамі.

○ ***У БДУ сёння вучыцца каля 15 тысяч студэнтаў.*** *Сярод выкладчыкаў універсітэта 211 дактароў навук і 927 кандыдатаў.*

○ **Пад старшынствам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне** дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. Для выдання рэкамендаваныя сем рукапісаў падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. На дапрацоўку аўтарам адпраўлены рукапіс "Гісторыя Беларусі" для 11-га класа агульнаадукацыйнай школы. Да канца гэтага года намечана правесці яшчэ адно такое пасяджэнне.

○ ***Спецслужбы Беларусі і Польшчы дамовіліся*** *аб супрацоўніцтве ў галіне барацьбы з міжнароднай арганізаванай злачыннасцю, з нелегальнай міграцыяй, наркабізнесам, з адмываннем здабытых незаконным шляхам грошай. Дай Бог, каб дамова дзейнічала, а не была проста паперкай.*

○ **Другі месяц ідзе падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 1997 года. Не забудзьцеся аформіць падпіску і на "Наша слова"!**

# Дзяды-96: пад сцягам несмяротнасці беларусаў

Шэсце "Дзяды" па вуліцах Менска, наладжанае Беларускім Народным Фронтам, было масавым і ўражвала сілай духу ягоных удзельнікаў. На думку арганізатараў, гэта акцыя напярэдадні рэферэндуму павінна была прадэманстраваць жыхарам сталіцы, што беларусы шануюць сваіх продкаў і дбаюць пра будучыню.

Калона ў некалькі тысяч чалавек пад бел-чырвона-белымі сцягамі прайшла звыш 17 кіламетраў ад плошчы Незалежнасці да Курапатаў. А 12-й гадзіне людзі ўсклалі кветкі да помніка "Героям менскага падполля" каля Чырвонага касцёла і ходнікамі рушылі па праспекце ў бок Усходніх могілак. Аднак зрабіць прыпынак ля Міністэрства ўнутраных спраў, дзе традыцыйна выстаўлялася капліčка памяці вязняў турмы НКУС, дэманстрантам не дазволілі. Абараняць міністэрства ад "нацыянал-радыкалаў" спадар Агалец паслаў у асноўным чыноўнікаў свайго ведамства рангам не ніжэй за капітана, сярод якіх былі і жанчыны. Народ пасмяяўся над гэтым і крочыў далей. На ўсім працягу шэсця міліцыя паводзіла сябе досыць карэктна і толькі час ад часу праз узмацняльнікі нагадвала не парушаць вулічны рух.

Дэманстрацыя працягвалася больш 4 гадзін. У 16.30 яе ўдзельнікі дасягнулі памятнага крыжа ў Курапацкім лесе, каля якога з невялікімі прамовамі да людзей звярнуліся кіраўнікі БНФ Л.Баршчэўскі, Ю.Хадыка і В.Сіўчык. Пасля ўдзельнікі жалобных урачыстасцяў усклалі кветкі і запалілі свечкі ля ўсіх курапацкіх помнікаў. У гэты ж дзень дэлегацыі ад БНФ і іншых партый усклалі вянкі да помніка Перамогі, каплічак ахвярам бальшавіцкага генацыду ў парку Чалюскінцаў і ўрочышчы Лошыца, да іншых памятных месцаў. Ля курапацкага крыжа памінальны малебен за душы ўсіх памёрлых, загінуўшых і закатаваных за Беларусь адслужылі пробашч касцёла св.Сымона і Алены кс.Уладзіслаў Завальнюк і дзекан беларускіх грэка-каталікоў сп.Ян Матусевіч.

А ўвечары ў Чырвоным касцёле гучаў несмяротны "Рэквіем" Моцарта.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

***Працяг тэмы***

# Першыя ўрокі Нацыянальнага кангрэса

*Як паведамлялася, 18 кастрычніка г.г. у Менску, у Палацы прафсаюзаў, адбыўся Нацыянальны кангрэс "У абарону Канстытуцыі — супраць дыктатуры".*

*Сёння мы працягваем знаёміць чытачоў з матэрыяламі гэтага прадстаўнічага форуму беларускіх патрыётаў. Публікуем выступленні і інтэрв'ю з удзельнікамі кангрэса.*



**На здымку:** Шэсце на праспекце Францыска Скарыны. У першым і другім шэрагах ідуць **Георгій Таразевіч, Юрый Захаранка, Валерый Костка, Генадзь Карпенка, Уладзімір Барадач, Сяргей Антончык** (крайні справа).

***Янка БРЫЛЬ,***
***народны пісьменнік Беларусі***

## Хай не пакіне нас мужнасць і мудрасць!

### (Уступнае слова на кангрэсе)

Дарагія сябры! Днямі, калі мне быў прапанаваны высокі гонар выступіць перад вамі, калі я ўваходзіў у клопат, што і як сказаць, у памяці ўсплылі радкі незабыўнага Пімена Панчанкі, напісаныя ў франтавым сорак другім, далёка ад паняволенай Беларусі:

*І адна ў мяне — пра Радзіму —*
*Сягоння трывога,*
*І адна ў мяне — на Радзіму —*
*Сягоння дарога.*

Які балючы парадокс, якая сумная рэальнасць,— у мірны час, у сталіцы суверэннай дзяржавы, у цэнтры Еўропы трэба збірацца ў вялікай патрыятычнай трывозе за сваю сапраўдную незалежнасць, за сваё правы на родную мову, школу, культуру, за правы на дэмакратыю, за найбольш адпаведную ёй Канстытуцыю, за найвярнейшую дарогу ў светлую будучыню роднага народа.

Не бачаны раней нахрап злачыннасці, афіцыйнай ілжы, дзікае падзенне спрадвечнай чалавечай маралі, катастрафічна няспынная штодзённая хада ўподбежку дарагавізны і ўсеагульнай галечы. А над усім — жахлівы прывід дыктатуры!..

Як быццам наш народ мала яшчэ нацярпеўся, напакутаваўся за вякі. Агонь і меч разнамасных "вызваліцеляў", крывавы бізун прыгону, Курапаты і Трасцянец, і "божы палец", як называлі ў даваеннай Польшчы паліцэйскі гумавы кій, што ў нашы дні зноў увараўся ў моду...

І самі дзівімся, і людзі дзівяцца, высакародна дзівіўся і наш вялікі зямляк — Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі: як ён выжыў, як захаваў сябе — беларускі народ?!

Дзівіцца трэба яшчэ з таго, колькі было іх, ахвотнікаў намі пакіраваць, пакрасавацца неабмежаванай уладай на фоне нашай славутай рахманасці, па-невуцку панастаўляць нас, як трэба жыць дома, у межах краіны,

*(Заканчэнне на с.2.)*

***Жыццё Таварыства***

## У Сакратарыяце ТБМ

17 кастрычніка ў сталічнай сядзібе Таварыства беларускай мовы адбылася супольная нарада Сакратарыята ТБМ і Канцылярыі Таварыства беларускай школы. Яе ўдзельнікамі быў абмеркаваны шэраг актуальных для абедзвюх арганізацый пытанняў.

Першым з іх стала прыняцце канцэпцыі збору дакументаў аб парушэннях правоў беларускамоўных грамадзян краіны і іх дыскрымінацыі ды вызначэнне складу рэдакцыйнай калегіі "Белай кнігі". Пасля разгляду і аналізу распрацаванага віцэ-прэзідэнтам ТБШ А.Лозкам палажэння аб "Белай кнізе" было вырашана зацвердзіць гэты дакумент у якасці базавага. Тэкст "Палажэння " друкуецца ніжэй.

Дзеля выпрацоўкі канцэпцыі праваабарончага праекта, якім з'яўляецца стварэнне "Белай кнігі", вызначэння спосабу яго рэалізацыі і складу выканаўцаў было вырашана з прадстаўнікоў абедзвюх арганізацый стварыць часовую ініцыятыўную групу. У яе склад былі ўключаныя: старшыня Рады ТБШ Фрунзенскага р-на сталіцы Р.Аляхновіч, сябра Канцылярыі ТБШ Л.Мухіна, сябра Сакратарыята ТБМ Л.Дзіцэвіч, сябра Рады ТБМ С.Запрудскі, сябра Канцылярыі ТБШ В.Палсцюк, сябра Сакратарыята ТБМ У.Панада, сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта І.Саверчанка, старшыня Менскай Рады ТБМ М.Савіцкі, сябра Менскай Рады ТБМ А.Саламонаў.

Наступным разглядалася пытанне аб правядзенні Таварыствам беларускай мовы і Таварыствам беларускай школы сумесна з Педагагічнай камісіяй СП "круглага стала", прысвечанага праблемам беларускамоўнай адукацыі. Ён адбудзецца 27 лістапада а 16-й гадзіне ў сталічным Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5).

Далей была абмеркаваная прапанова, якую ТБМ і ТБШ атрымалі ад камісіі па адукацыі і культуры Вярхоўнага Савета: прадстаўнікам гэтых арганізацый 24 кастрычніка сустрэцца з прадстаўнікамі камісіі дзеля ўзаемнага азнаямлення з пазіцыямі няўрадавых арганізацый і камісіі Вярхоўнага Савета ў пытаннях нацыянальнай адукацыі. Удзельнікамі нарады быў складзены спіс удзельнікаў сустрэчы і іх боку. У яго ўвайшлі Л.Дзіцэвіч, В.Кузьміч, І.Лапіцкая, В.Ярашэнка, Л.Баршчэўскі, В.Вячорка, А.Лозка, В.Палсцюк, Г.Пятроўскі, А.Рагуля, А.Сядзяка.

Апошнім пунктам стала зацвярджэнне рашэння аб арганізацыі акцыі збору подпісаў у абарону беларускамоўнай вышэйшай школы. Збор подпісаў пад зваротам, тэкст якога быў прапанаваны выкладчыцай Універсітэта радыёэлектронікі і інфарматыкі Л.Шломай, будзе працягвацца да канца лістапада.

У дачыненні да сярэдняй школы вырашана правесці аналіз новых навучальных планаў, разлічаных на 12-гадовы цыкл сярэдняй адукацыі.

### Каму належыць увага?

24 кастрычніка, напярэдадні прызначанай раней сустрэчы ў Вярхоўным Савеце, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Іван Свірыд раптоўна прапанаваў прадстаўнікам ТБМ і ТБШ перанесці іх спатканне з сябрамі камісіі і дэпутатамі Вярхоўнага Савета на неакрэслены тэрмін.

Адмова ўрадавых чыноўнікаў і дэпутатаў ад удзелу ў сустрэчы была патлумачаная ўдзелам тых у рабочай сустрэчы з дэпутатамі Дзяржаўнай Думы Расіі.

**У.П.**

# Першыя ўрокі Нацыянальнага кангрэса

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

дзе сабралася столькі моў і веравызнанняў, як трэба сябраваць з вялікімі і меншымі суседзямі.

Мы ведаем і самі, каго нам і як ды завошта трэба паважаць і любіць на поўначы і поўдні, на захадзе і на ўсходзе, перад нікім не стоячы ў агіднай позе беднага, прыгорбленага сваячка, з ліслівым выскалам манкурта, гатовага за сачавічнае пойла на любое ахвярнае слугаванне.

Нам трэба вольная, мірная, нейтральная, дэмакратычная Беларусь. Права на гэта яна заслужыла сваімі пакутамі, сваёю гераічнай барацьбой з нацызмам, сваёю верай у чалавечую справядлівасць. Нам трэба раўнапраўная дружба з усімі народамі, мы любім і ўмеем дружыць. Мы хочам быць не лішнімі, не смешнымі, не жалю, а то і пагарды вартымі ў прагрэсіўнай сям'і чалавецтва, мы хочам, каб нас паважалі, каб з намі лічыліся.

Грубай, нахабнай сіле сваёй і чужой рэакцыі, шавіністычнай ды прафашысцкай дэмагогіі, як бы шматвопытныя ды дылетанцкашустрыя вяршыцелі пад любое святкаванне ні перабельвалі свае хаты-палаты, як бы слінява ні абдымаліся ў патайных нячыстых задумах ды намаганнях, трэба і неабходна бескампрамісна супрацьпаставіць нашу цярплівую беларускую мужнасць, абавязкова спалучаную з абачлівай мудрасцю — на сёння, на заўтра і назаўсёды. Трэба не проста пагаманіць, паахкаць, пакрычаць, сабраўшыся, а сур'ёзна, дзелавіта параіцца, актыўна і разумна вырашыць, што і як трэба рабіць.

А прыгадаўшы, як гэта нашы бацькі, дзяды і прадзеды шанавалі шчырую, справядлівую, святую працу, давайце самі сабе і ўсім добрым людзям, і ў гэтай, на жаль, не надта прасторнай зале, і за сценамі яе, бліжэй і найдалей, па-людску, па-мазольнаму паўторым народнае:

Памагай Бог!



**На здымку:** Шэсце па вуліцы Янкі Купалы. У цэнтры — нацыянальны беларускі сцяг.

*Генадзь КАРПЕНКА,*
*намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета*

**— Як вядома, напружанне ў грамадстве, процістаянне ў ім палярных сіл дасягнула апагею. Заўтра Прэзідэнт Лукашэнка збірае свой “Усебеларускі сход”. У такой сітуацыі, якую ролю і значэнне Вы адводзіце кангрэсу?**

— Скліканне Нацыянальнага кангрэса, безумоўна, сведчыць аб кансалідацыі розных палітычных рухаў на Беларусі, аб кансалідацыі асабістых поглядаў асобных палітыкаў, аб кансалідацыі ўсёй працы дэмакратаў перад рэферэндумам. Хачу сказаць, што вялікая работа ўжо зроблена. Рэзалюцыя кангрэса — гэта ўжо напрацаваная наша дарога.

**— Якім, на Вашу думку, будзе рэзананс ад кангрэса? Ці здолее ён паўплываць на далейшыя падзеі?**

— Ведаеце, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі зробяць усё, каб гэтага кангрэса як бы і не было. Інакш кажучы, будуць яго ўсяляк замоўчваць. І ўсё ж гэта падзея будзе паўсюль абмяркоўвацца, паколькі прысутныя тут дэлегаты з усёй рэспублікі раз'едуцца па родных мясцінах і, безумоўна, давядуць да свядомасці грамадзян, што ў Беларусі ёсць сіла, якая змагаецца супраць праекта Канстытуцыі, які выносіць на рэферэндум Прэзідэнт Лукашэнка.

**— Перад тым, як увайсці ў “вялікую палітыку”, яшчэ на пасадзе мэра горада Маладзечна, Вы набылі вядомасць культурнага і грамадскага дзеяча. Усе памятаюць выдатныя маладзечанскія фестывалі, якія развівалі нацыянальную культуру, абуджалі ў жыхароў рэспублікі нацыянальную самасвядомасць. А калі Вы самі адчулі сябе свядомым беларусам, адказным за лёс народа і за лёс беларускай дэмакратыі?**

— Я мяркую, што такой вяхой у маім жыцці стаў 1991 год, калі наша краіна атрымала з рук лёсу незалежнасць і давялося думаць, якім шляхам ёй ісці далей. Для Беларусі, якая ляжыць на скрыжаванні Усходу і Захаду з характэрнай для гэтага рэгіёна свету раскладкай палітычных сіл і інтарэсаў людзей розных нацыянальнасцяў, чаго нельга скідваць з рахунку, пытанне зусім не простае. Трэба было вызначыць нацыянальную ідэю. Ведаеце, асабіста для мяне самым галоўным было тое, каб даносіць гэту ідэю да людзей не пад нейкім націскам, а паступова. Для таго ёсць многа спосабаў. Механізм данясення нацыянальнай ідэі праз культуру — тэатральную, эстрадную і нават праз культуру беларускага бізнесу, самы надзейны. Да гэтага трэба дадаць ролю гісторыі, нашай памяці пра мінуўшчыну, якую мы вярталі, напрыклад, аднаўляючы старыя назвы вуліц горада.

**— Цяпер поле Вашай дзейнасці на ніве беларускай культуры як бы пашырылася?**

— Я не сказаў бы, што сёння, калі я працую ў парламенце, у мяне больш магчымасцяў зрабіць нешта добрае для нашай культуры, чым было іх раней. Я хачу сказаць, што да дзевяноста чацвёртага года на Беларусі не было супрацьстаяння нацыянальнай культуры. Яно пачалося з абраннем на пост Прэзідэнта Лукашэнкі. Тыя сілы, якія сёння вядуць у рэспубліцы культуру, у тым ліку і памочнікі Прэзідэнта,— гэта людзі, якія ніколі з культурай не сутыкаліся — не толькі з беларускай, але з культурай наогул. Яны нядаўна знялі шынялі, пагоны палкоўнікаў і думаюць, што палкай, правакацыямі яны ўваб'юць у наша грамадства іншую культуру. Не, не ўваб'юць яе! Скора гэта палка, вобразна кажучы, пройдзе і па іх уласнай спіне — я ў гэтым не сумняваюся. Так што, вяртаючыся да вашага пытання, я не сказаў бы, што сёння стала лепей і магчымасцяў развіваць культуру ў мяне стала болей. Не! Адразаюцца ўсялякія магчымасці. А калі ўзважыць тое, што я мог рабіць раней, і тое, што я раблю сёння, то стане бачна, што я больш сілы аддаю, на жаль, на супрацьстаянне.

**— Як, на Вашу думку, будуць развівацца падзеі пасля рэферэндуму?**

— Не сумняваюся, што вынікі рэферэндуму для нашага Прэзідэнта будуць адмоўныя — пры ўмове, калі людзі яго правядзенне возьмуць пад свой кантроль і будзе выключана ўсякая фальсіфікацыя. А што нас чакае? Народная мудрасць кажа: “Як пасцелешся, так і выспішся”.

**— Што б Вы пажадалі чытачам?**

— Я б хацеў, каб чытачы вашай газеты, як і любой іншай, задумаліся над сваім лёсам, лёсам сваіх дзяцей і ўнукаў, над лёсам дзяржавы ўрэшце рэшт, калі пойдуць на рэферэндум. Задумайцеся яшчэ раз, людзі!

*Радзім ГАРЭЦКІ,*
*акадэмік*

**— Радзім Гаўрылавіч, якіх вынікаў чакаеце ад кангрэса?**

— Цяжкое пытанне. Ну, па-першае, мне здаецца, што вельмі важна зараз нашай дэмакратычнай плыні аб'яднацца і выказаць свой погляд на сітуацыю ў краіне, якая мне ўяўляецца катастрафічнай. Бо калі адбудзецца рэферэндум і людзі падтрымаюць праект Канстытуцыі Прэзідэнта, то тым самым яны прагаласуюць за дыктатуру.

**— А па-другое?**

— Па-другое, Нацыянальны кангрэс дапаможа давесці да розуму многіх людзей слова праўды. Людзі чуюць радыё, глядзяць тэлевізар, чытаюць газеты, адкуль хлусня ідзе значная. І тут на ўдзельнікаў кангрэса прыпадае асветніцкая місія: ісці ў народ і растлумачваць яму сапраўдны стан рэчаў. Я думаю, што разумныя людзі ў нас яшчэ не перавяліся. Пабачце, колькі іх на кангрэсе і як яны прыслухоўваюцца да таго, што тут гаворыцца. Ідуць людзі і з Салігорска, і з іншых мясцін. Праўда, па дарозе іх затрымліваюць, арыштоўваюць. Ад кангрэса павінен пайсці добры розгалас.

**— Ваш прагноз адносна вынікаў будучага рэферэндуму?**

— Яго вынікі цяжка спрагназаваць. На жаль, многія людзі па розных прычынах падтрымаюць сваімі галасамі пазіцыю Прэзідэнта, што можа прывесці да канстытуцыйнага перавароту. І ўсё ж, паколькі развіццё грамадства ідзе хвалямі, за спадам назіраецца ўздым, то я спадзяюся, што і мы ўздымемся з гэтай ямы, у якой зараз сядзім, і пераможам наступ рэакцыі, гэту страшэнную антыбеларушчыну, і выйдзем на шлях пабудовы беларускай дзяржавы еўрапейскага тыпу.

*Мікалай КРУКОЎСКІ,*
*доктар філасофскіх навук, прафесар*

**— Мікалай Ігнатавіч, якіх вынікаў Вы чакаеце ад кангрэса? І якія, на Вашу думку, яго першыя ўрокі?**

— Наконт таго, каб што-небудзь істотна змянілася пасля гэтай падзеі, гаварыць не даводзіцца — занадта няроўныя сілы. І ўсё ж гэты кангрэс — крок па-свойму значны і рашучы. І рэакцыя на яго ў Прэзідэнта адпаведная, аб чым і далажыў Юрый Захаранка на пачатку сходу. Добра, што сабралася шмат людзей розных палітычных накірункаў і адчуваецца іх поўнае адзінства. Перад рэальнай пагрозай мы становімся цывілізаванымі палітыкамі, што таксама дае нейкія надзеі на будучае. Справа ў тым, што асноўная наша праблема — гэта процістаянне людзей, адны з якіх стаяць за мінулае (камуністы, па сутнасці), а другія — за будучае (дэмакраты). Лукашэнка, які нейкім выпадковым, хоць і сукаватым паленам трапіў у нашы калёсы,— ён выпадзе, і мы зноў будзем стаяць адны супраць другіх. Аднак пасля сумеснай барацьбы супраць дыктатуры мы будзем прытрымлівацца больш высокай палітычнай культуры ў сваім супрацьстаянні, як гэта робіцца ў Амерыцы або ў Заходняй Еўропе. Бо калі народ галасуе на карысць тых і другіх, то гэта якраз вельмі нармальна, якраз тое, што мы маем на Захадзе. Мяне, напрыклад, вельмі здзіўляе сваёй манерай весці палітычныя дэбаты старшыня Канстытуцыйнага суда камуніст Ціхіня. Так што ў гэтым плане кангрэс мае важнае значэнне.

**— Што б Вы яшчэ хацелі сказаць?**

— Хачу адзначыць яшчэ адзін важны момант у пазіцыі кангрэса. Справа не толькі ў тым, што Прэзідэнт Лукашэнка груба парушае дзеючую Канстытуцыю і імкнецца засяродзіць у сваіх руках усю ўладу. Я асабіста яму б гэта дараваў, калі б яго памкненні і ўчынкі былі накіраваныя на дабро Беларусі —хоць бы так, як накіроўваў іх на Польшчу Юзаф Пілсудскі. Наша гісторыя на такім рубяжы стаіць, што дэмакратыя павінна быць моцнай. Памятаеце, як вецер гісторыі здзьмухнуў з палітычнай сцэны слабака — дэмакрата Керэнскага? Галоўная небяспека Прэзідэнта Лукашэнкі для нашай дзяржавы заключаецца ў тым, ***што ён сваю ўладу скіроўвае на тое***, каб фармальна легітымным шляхам здаць Беларусь у жалезныя, а цяпер, пасля Чачні, і ў крывавыя абдымкі Расійскай імперыі. Гэта ён не вельмі і хавае, а пра яго расійскіх субяседнікаў і гаварыць няма чаго. Я мяркую, што захаванне незалежнасці павінна цікавіць не толькі дэмакратаў і нацыянал-дэмакратаў, але і камуністаў, таму што яны таксама павінны разумець: дзяржаўная незалежнасць і нацыянальная свабода — гэта аснова, перадумова ўсяго. Выступленне Ніла Гілевіча на кангрэсе завастрыла гэта пытанне і сканцэнтравала ўсе паасобныя высілкі ў адно, накіраваўшы іх, якраз як акумулятыўны снарад, туды, куды трэба.

**— Выходзіць, што сумесная барацьба камуністаў і дэмакратаў супраць існуючага рэжыму дабратворна ўплывае на іх уласныя ўзаемаадносіны.**

— “Нет худа без добра”,— кажа расійская прымаўка. Сапраўды, мы зараз усе згуртаваліся і праходзім палітычную школу і калі Бог дасць, што вецер перамен зробіць так, што мы, дэмакраты, застанёмся з камуністамі на Беларусі сам-насам, то ўжо і дзейнічаць будзем інакш: будзем працаваць разам, прыкладам, так, як дэмакраты і рэспубліканцы ў Амерыцы, або торы і вігі ў Англіі. Вось такія першыя ўрокі кангрэса, а не толькі ўражанні.

**Матэрыял падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**
**Фота У.Кармілкіна.**

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ,*
*экс-спікер парламента, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

**— Станіслаў Станіслававіч, якімі Вам бачацца роля і значэнне Нацыянальнага кангрэса?**

— Ведаеце, я хацеў бы, каб значэнне гэтай падзеі для гісторыі Беларусі было мінімальным. Справа ў тым, што яна фактычна накіравана на іншую падзею, якая, ёсць падставы лічыць, будзе незаконнай.

**— Вы маеце на ўвазе будучы рэферэндум?**

— Не, я маю на ўвазе так званы Усебеларускі народны сход. Таму што там усё стандартызавана, там па савецкім мінулым узоры зроблена абранне дэлегатаў і ўсе яны будуць гаварыць адно і тое ж: наш Прэзідэнт разумны, скажуць яны, а ў нас усё дрэнна таму, што яму, народнаму абранніку, не хапае ўлады. Калі я слухаю радыё (а ў нас усе сродкі масавай інфармацыі ў адных руках), то проста дзіўлюся, адкуль у нас бяруцца такія настаўнікі, якія выказваюць Прэзідэнту ўдзячнасць за падараваныя 500 тыс. рублёў такім чынам: “Я не ведаю, што прапануе Прэзідэнт, але я яго падтрымліваю.” Я разумею жабрацкі стан нашых настаўнікаў, але не разумею, чаму яны трацяць праз гэта чалавечую годнасць. Дый не Прэзідэнт ім даў гэтыя грошы, а тыя людзі, што побач з імі, з таго падатку, які яны плацяць. Грашовая падачка людзям — спецыяльны ход, і такіх хадоў вельмі многа. Як вы ведаеце, савецкі час выхоўваў правакатараў тыпу Замяталіна ды Антановіча, якія на такіх штучках спецыялізаваліся і за кошт гэтага жылі.

**— І ўсё ж, чаго мы тут усе сабраліся? Што хочам выказаць і каму?**

— Мне здаецца, сама назва кангрэса: “У абарону Канстытуцыі — супраць дыктатуры” дае адказ на ваша пытанне. Мы сабраліся дзеля таго, каб абараніць нашу дэмакратычную Канстытуцыю. Я не ў захапленні ад усіх яе палажэнняў, але калі сёння Польшча можа жыць па Канстытуцыі 1964 года і тым не меней усталёўваць у сябе дэмакратыю, развіваць законы і права, то мы таксама можам жыць па Канстытуцыі 1994 года, значна больш дэмакратычнай і дасканалай, чым польская. Кангрэс сёння можа зрабіць адно: ён можа выказаць сваю думку — у гэтым яго роля і значэнне.

**— Вы маеце намер узяць слова?**

— Я не буду выступаць, я хачу паслухаць. Раблю гэта знарок, таму што ў нас многа маладых, прагрэсіўных сіл у палітыцы і многа маладых сумленных дэпутатаў. І трэба, каб усе бачылі, што такія людзі ў нас ёсць.

**— Скажыце, а аб'яднанне ў Вярхоўным Савеце розных палітычных сіл, якія выступаюць супраць парушэнняў Канстытуцыі і дыктатуры — яно моцнае, даўгавечнае?**

— Яно хутчэй часовае, таму што такога тыпу аб'яднанні супраць беззаконня, супраць алагізмаў і, я б сказаў, супраць палітычнага маразму ў цывілізаваных краінах непатрэбнае. Мы ўсталёўваем вельмі просты падыход: кожны павінен шанаваць закон і ўсе павінны працаваць па законе. Больш нічога нас не аб'ядноўвае, але гэта аб'ядноўвае вельмі моцна. А палітычныя платформы, вы маеце рацыю, у нас розныя.

**— Ці заўважаеце Вы зрухі ў светапоглядзе тых людзей, якія працуюць разам з Вамі ў Вярхоўным Савеце?**

— Зразумела, што яны ў іх ёсць. Калі на пачатку сваёй дзейнасці новаабраны парламент быў амаль цалкам прапрэзідэнцкім, працэнтаў 70 дэпутатаў Прэзідэнта падтрымлівалі, то сёння гэты парламент ужо пераадолеў дванаццаць прэзідэнцкіх “вета” і па шэрагу пытанняў у сваёй большасці ідзе за здаровым сэнсам, за законам, за Канстытуцыяй.

**— У мінулы раз Вы мне гаварылі, што наша выдатная моладзь не паддасца працэсу дэнацыяналізацыі і будзе будаваць незалежную дэмакратычную Беларусь. А што скажаце сёння? Каму адводзіце першую ролю ў гісторыі?**

— Ведаеце, першую ролю я адводжу розуму, а другую —зноў жа нашай моладзі, на якую вельмі спадзяюся. Калі тры гады назад у нас было цяжка знайсці маладога чалавека, які арыентаваўся б на рынкавую эканоміку, то сёння можна праводзіць конкурс такіх людзей. Я падпісваюся пад той заявай наконт моладзі, якую зрабіў вам раней, але лічу, што маладая ініцыятыва павінна спалучацца з мудрасцю старэйшых. А старэйшыя павінны стаць не накіроўваючай сілай, а дарадчай, што ў нашым парламенце мы бачым сёння.



**На здымку:** Мітынг на плошчы Парыжскай камуны. На першым плане — **Павел Знавец, Мечыслаў Грыб, Ірына Скрыпка, Анатоль Майсеня.**

# Слуцкае паўстанне 1920 г. у святле польскіх вайсковых матэрыялаў

Пасля пераможных бітваў пад Варшавай і над Нёманам бai перанесліся на беларускія землі. 11 кастрычніка 1920 г. аддзелы 4-й арміі Польшчы зноў занялі Слуцк і яго ваколіцы. Праз некалькі дзён, 18 кастрычніка, скончыліся апошнія бai польска-бальшавіцкага канфлікту. У той час лінія фронта праходзіла за 25 км на ўсход ад Слуцка.

Адпаведна мірным пагадненням паміж Польшчай і бальшавіцкай Расіяй, падпісаным у Рызе 12 кастрычніка, мяжа паміж дзвюма дзяржавамі мела праходзіць на захад ад Слуцка. Было ясна, што неўзабаве польскія сілы пакінуць Случчыну.

Час знаходжання на гэтым абшары польскіх аддзелаў імкнуліся выкарыстаць беларускія незалежніцкія партыі і арганізацыі. Галоўнай іх мэтаю было ўтварэнне палітычнага прадстаўніцтва беларускага народа, а таксама ўласных збройных сілаў. На працягу колькіх дзён такое прадстаўніцтва — Беларускі нацыянальны камітэт — было створана. На чале яго стаў Арсень Паўлюкевіч. У тым камітэце апынуліся пераважна тыя палітычныя групоўкі, якія рэалізацыю сваіх нацыянальных праграм звязвалі са шчыльным супрацоўніцтвам з Польшчай.

Кіраўніцтва польскай 4-й арміі, аддзелы якой знаходзіліся ў Слуцкім павеце, з вялікай зычлівасцю ставіліся да палітычных і вайсковых ініцыятываў мясцовых беларускіх дзеячаў. Выказам таго стала перадача на пачатку 1920 года Беларускаму нацыянальнаму камітэту цывільнай улады ў горадзе і павеце. У гмінах і вёсках былі створаны мясцовыя беларускія камітэты.

Чарговым поспехам беларускіх палітыкаў стала скліканне ў Слуцку 14-15 лістапада 1920 г. Беларускага з'езда Случчыны. У яго нарадах удзельнічала 197 дэлегатаў, прысланых мясцовымі камітэтамі, 10 прадстаўнікоў беларускіх грамадска-культурных арганізацый (з дарадчым голасам), прадстаўнікі генерала Станіслава Булак-Балаховіча, а таксама размешчанай у тым рэгіёне 11-й дывізіі пяхоты. Старшынём з'езда быў Васіль Русак, яго намеснікам — Уладзімір Пракулевіч. У час нарадаў адбываліся палітычныя спрэчкі паміж прыхільнікамі генерала Булак-Балаховіча і беларускімі эсэрамі. Першыя выказваліся за пабудову беларускай дзяржавы ў шчыльным супрацоўніцтве з Польшчай, другія прапаноўвалі шукаць дапамогі і падтрымкі ў летувіскіх уладаў. З'езд скончыўся кампрамісам: за афіцыйную ўладу была прызнаная Беларуская Найвышэйшая Рада. Яе прадстаўніком у Слуцкім павеце быў прызнаны Павел Жаўрыд. Мясцовае насельніцтва мела прадстаўляць абраная на з'ездзе Рада Случчыны на чале з У.Пракулевічам. У руках гэтай Рады знаходзілася ўся цывільная ўлада і справа арганізацый вайсковых фармацыяў.

Не падлягае сумлеву тое, што рэалізацыяй усіх іншых ідэяў, найперш нацыянальнай, было абумоўлена фармаванне ўласных збройных сілаў. Стварэнне беларускіх збройных сілаў на Случчыне Рада даверыла вайсковай тройцы ў складзе Жаўрыда, капітана Анастасія Анцыповіча і паручніка Яна Мацэллі. Каб знайсці ахвотных уступіць у шэрагі беларускага войска, Рада выдала дэкларацыю, у якой заклікала да барацьбы за незалежную Беларусь у яе этнаграфічных межах.

Аснову беларускіх аддзелаў на Случчыне складалі ахвотнікі, якія адразу пасля заняцця рэгіёна палякамі ўступілі ў рэзервовую народную міліцыю, створаную з ініцыятывы палякаў паручнікам Мацэллі. З наплывам ахвотнікаў на працягу некалькіх дзён быў сфармаваны першы тактычны аддзел, названы "1-я Слуцкая стралецкая брыгада войска Беларускай народнай рэспублікі". Напачатку арганізацыйнай дзейнасці ў трэцяй дэкадзе лістапада гэтая брыгада складалася з двух лінейных палкоў: 1-га Слуцкага стралецкага палка і 2-га Грозаўскага стралецкага палка.

Яшчэ да скачэння фармавання ў Слуцку беларускай брыгады палякі, выконваючы пастановы мясцовай вайсковай умовы, заключанай 14 лістапада з бальшавіцкім бокам, пачалі рыхтавацца пакінуць гэтую тэрыторыю. Умова прадугледжвала пачатак гэтай акцыі 19 лістапада. Польскі бок адцягваў, аднак, яе выкананне, імкнучыся такім чынам аблегчыць пачатак дзеянняў свайго былога саюзніка ў польска-бальшавіцкай вайне — генерала С.Булак-Балаховіча, які імкнуўся заняць абшары Магілёўшчыны, а ў перспектыве вызваліць рэшту земляў Усходняй Беларусі. Працяг побыту польскага войска ў рэгіёне Слуцка быў таксама карысным для паспешна створанай 1-й Слуцкай стралецкай брыгады.

Не жадаючы зрываць заключаных раней пагадненняў з бальшавіцкім бокам, пасля некалькіх змаруджаных дзён кіраўніцтва польскай 4-й арміі пачало адводзіць свае аддзелы на захад. Гэтая аперацыя пачалася 24 лістапада. За палякамі, якія пасоўваліся за вызначаную ў Рыжскіх пагадненнях мяжу, рушылі аддзелы Чырвонай Арміі. Яны занялі пакінуты польскімі войскамі Слуцк і 29 лістапада сталі на вызначанай дэмаркацыйнай лініі. Далей яны не рушылі, бо раней абодва бакі прадугледзелі стварэнне 15-кіламетровага нейтральнага паса паміж сваімі часткамі.

Перавага бальшавіцкіх войскаў была так значнай, што нядаўна сфармаваныя беларускія аддзелы не мелі чыніць ім паспяховага адпору. Таму разам з польскімі аддзеламі на захад рушылі Рада Случчыны і беларускія вайсковыя адзінкі. Скарыстаўшы 15 кіламетраў нейтральнай тэрыторыі, беларусы ўладкаваліся ў мястэчку Семежава, што ляжала ў тым пасе. Тут яны імкнуліся спешна скончыць арганізацыю 1-й Слуцкай стралецкай брыгады.

У польскай і беларускай гістарыяграфіях існуе значнае разыходжанне колькасных ацэнак згаданай брыгады. У нядаўна знойдзеных польскіх крынічных матэрыялах, што датычаць апошняга этапу вайны 1920 года, колькасць байцоў Слуцкай брыгады ацэньваецца ў 1100-1200 асобаў. У рапартах выведкі 11-й і 18-й польскіх пяхотных дывізіяў сцвярджаецца, што брыгада ў пачатку снежня 1920 года складалася з двух лінейных стралецкіх палкоў і двух палкоў рэзерву. Кожны полк складаўся з трох батальёнаў, а батальён — з трох ротаў. У кожнай з іх было каля 30-ці жаўнераў, узброеных ручной стралецкай зброяй. У брыгадзе было некалькі кулямётаў. У крынічных матэрыялах — як польскіх, так і беларускіх — няма ніякіх згадак пра валоданне брыгады артылерыяй. Беларускія гісторыкі падаюць, што ў склад брыгады ўваходзіў самастойны аддзел кавалерыі пад кіраўніцтвам паручніка Камарыцкага. У польскіх рапартах не знойдзена пацвярджэння яго існавання. Гэтыя дакументы згадваюць пра значныя цяжкасці, якія меў беларускі бок з камплектаваннем афіцэрскага корпусу. Афіцэраў было няшмат, большасць з іх мела ніжэйшыя чыны, атрымаьныя ў час І сусветнай вайны ў царскай арміі. Да таго ж найбольш актыўныя і нацыянальна свядомыя афіцэрыбеларусы яшчэ раней уступілі ў аддзелы генерала С.Булак-Балаховіча.

Знойдзены рапарт польскай 18-й дывізіі за 8 снежня 1920 г., у якім пададзены амаль поўны склад штаба брыгады. Яго стваралі капітан Анастас Ацыповіч, капітан Ян Мацэллі, капітан Кудзінскі, капітан Сакалоў і харунжы Зарыц. Рапарты падкрэсліваюць, што беларускія палітычныя ўлады і вайсковыя фармацыі мелі вялікую падтрымку з боку мясцовага насельніцтва.

Побач з лінейнымі аддзеламі ў створаных пад эгідай Рады Случчыны беларускіх збройных сілах былі дапаможныя адзінкі і фармаванні: аддзел выведкі і контрвыведкі пад кіраўніцтвам паручніка Міacross Мірановіча, вайсковая школа пад кіраўніцтвам Тэадора Данілюка, табары і майстэрня зброі. Быў таксама арганізаваны вайсковы шпіталь і ўласны вайсковы суд.

Пасля пераводу войскаў у ваколіцы Семежава і ўтварэння нармальна дзеючай базы беларускае кіраўніцтва вырашыла прыступіць да акцыяў супраць бальшавікоў. Адбыліся бai пад Цімкавічамі і пад Вызнай, у якіх беларусы перамаглі, раззброіўшы савецкія гарнізоны і ўзяўшы шмат палонных. Літаратура падае колькасць палонных каля тысячы. Польскія вайсковыя дакументы не даюць пацвярджэння гэтай лічбы.

Палітычная і вайсковая актыўнасць Рады Случчыны, сведчаннем якой сталі рэйды па тэрыторыі, занятай Чырвонай Арміяй, а таксама рост падтрымкі беларускага насельніцтва гэтым дзеяннем занепакоілі бальшавікоў. Не зважаючы на падпісаную раней дамову, што гарантавала існаванне нейтральнага паса, 3 снежня 1920 г. савецкія адзінкі пачалі наступ, спрабуючы адсунуць беларусаў на захад, на тэрыторыю, кантраляваную 4-й польскай арміяй. Перавага бальшавікоў была такой значнай, што мовы пра паспяховы адпор ім не было. Вялікі ўплыў на хуткае адступленне беларусаў мелі таксама праблемы з забеспячэннем, бо за нядоўгі час яны скарысталі запасы амуніцыі, не атрымаўшы новых. Апошні бой аддзелаў, што ўваходзілі ў склад 1-й Слуцкай стралецкай брыгады, адбыўся 6 снежня 1920 г. пад Ядчыцамі. Звестак пра яго няшмат. З іх вынікае, што не маючы амуніцыі беларускія сілы панеслі паразу, у выніку чаго іх частка была змушаная перайсці фронт польскіх аддзелаў і была раззброеная. Рэшта, не жадаючы спыніць барацьбу за незалежную Беларусь, вырашыла працягваць яе, ствараючы партызанскія аддзелы. Гэтыя партызаны маглі разлічваць на матэрыяльную дапамогу і прытулак на абшары, кантраляваным 4-й арміяй генерала Леапольда Скерскага. Палякі былі вельмі зацікаўленыя ўзмацненнем партызанска-паўстанцкіх дзеянняў, бо бачылі ў іх элемент націску на бальшавікоў у час перамоваў, што адбываліся тады ў Рызе.

Жаўнеры 1-й Слуцкай стралецкай брыгады, якія апынуліся на польскім баку, былі раззброеныя, але іх не замыкалі ў лагерах для інтэрнаваных. У крынічных матэрыялах няма пацвярджэння існавання гэткіх лагераў не толькі ў прыфрантавым пасе, але і ў глыбі Польшчы. Гэтых людзей прымалі вельмі зычліва. Карыстаючыся свабодаю парушання, многія з іх паехалі на месцы ранейшага жыхарства ці да сваякоў. Тыя, што засталіся, уступалі ў арганізаваныя ІІ аддзелам 4-й арміі генерала Скерскага работніцкія дружыны, якія займаліся самымі рознымі справамі, напрыклад, адбудовай мастоў і рамонтам дарог у прыфрантавым пасе. З найбольш надзейных і па-антыбальшавіцку настроеных асобаў ствараліся дыверсійныя групы, якія пераkідваліся на бальшавіцкі бок з мэтаю падтрымання партызанска-паўстанцкай акцыі ў раёнах Слуцка і Бабруйска. Польскія ўлады лічылі, што яны маюць права арганізоўваць падобнага роду неканвенцыйныя акцыі, бо падобнымі метадамі ўжо здаўна карыстаўся савецкі бок, які высылаў дыверсійна-баявыя групы на тэрыторыі, кантраляваныя палякамі.

Колькасць і асабовы склад беларускіх работніцкіх дружынаў вагаліся. У перыяд уздыму, на пачатку лютага 1921 года, у іх, паводле захаваных польскіх спісаў, было 1555 асобаў. Потым гэтая лічба дастаткова хутка паменшала з прычыны стратаў у баях і змяншэння прыплыву новых ахвотнікаў. Пасля падпісання мірнага трактата ў Рызе ўсім стала зразумела, што спадзяванні беларусаў на пабудову незалежнай дзяржавы сталі нерэальнымі. Таму калі на пачатку красавіка 1921 г. у склад работніцкіх дружынаў уваходзіла 985 асобаў, дык у канцы таго ж месяца іх засталося ўжо менш за 600.

У беларускія работніцкія дружыны вельмі часта ўступалі партызаны з аддзелаў, якія пад націскам бальшавікоў шукалі схову на польскім баку. Паводле дастаткова поўных ацэнак польскіх вайсковых органаў, на пачатку 1921 года на беларускіх землях, што аказаліся на бальшавіцкім баку, дзейнічала каля 3000 партызан. Наймацнейшай партызанскай групоўкай "Зялёны дуб" кіраваў атаман Вячаслаў Адамовіч (псеўданім "Дзяргач"). З найбольшых партызанскіх акцыяў можна назваць рэйд на Вызну (2 красавіка) і Капыль (9 красавіка). Дзякуючы захаваным польскім вайсковым матэрыялам вядома, што іншымі партызанскімі аддзеламі кіравалі маёр Міхал Шклярскі, паручнік Цімафей Хведашчэня і капітан Паверак. Гэтыя афіцэры, атрымаўшы падтрымку польскага боку, з групамі сваіх жаўнераў уступілі ў работніцкія дружыны пры 4-й арміі.

Пасля падпісання ў Рызе мірнага трактата паміж Польшчай і Савецкай Расіяй новая палітычная сітуацыя патрабавала вырашэння беларускай праблемы. Згодна з умовамі трактата ніводзін з бакоў-удзельнікаў не мог падтрымліваць на сваёй тэрыторыі дзеянняў, супярэчных інтарэсам іншага боку. Польскія палітычныя сілы націскалі на вайсковыя ўлады дзеля таго, каб тыя спынілі падтрымку беларускіх антыбальшавіцкіх акцыяў. У выніку Галоўнае кіраўніцтва Войска Польскага аддало камандзіру 4-й арміі генералу Скерскаму загад распусціць усе беларускія арганізацыі на абшары дзеяння яго арміі. Генерал быў абавязаны правесці гэтую акцыю да 26 красавіка 1921 г. Усе дыверсійныя групы меліся быць раззброенымі, а работніцкія дружыны — распушчанымі. Іх удзельнікаў рэкамендавалася ў меру магчымасці выслаць за межы Польшчы.

Існуючыя крынічныя матэрыялы не даваляюць аднавіць ходу акцыі раззбраення і расфармавання беларускіх групаў. Можна дапусціць, што яна адбывалася спраўна і спакойна. Такім чынам польскі бок выканаў усе свае абавязкі ў Рыжскім трактаце. Гэтым скончыўся беларускі эпізод польскай вонкавай палітыкі.

Нягледзячы на адсутнасць падтрымкі з польскага боку, яшчэ на працягу некалькіх месяцаў на тэрыторыі Савецкай Беларусі дзейнічалі партызанскія аддзелы, не жадаючыя пагадзіцца з паразаю ідэі беларускай нацыянальнай дзяржавы. Апошнія з гэтых групаў і груповак былі разбітыя часткамі Чырвонай Арміі ў канцы ліпеня 1921 г. Такім чынам на доўгія гады быў пакладзены крэс марам беларусаў аб уласнай незалежнай дзяржаве.

**Збігнеў КАРПУС, Вальдэмар РЭЗМЕР.**
"Białoruskie zeszyty historyczne"
(№ 1 (5), 1996)
*Пераклад У.ПАНАДЫ.*

# Жальба па былой велічы

Убачыўшы па беларускай тэлевізіі перадачу пра 300-годдзе ВМФ, многія здзівіліся: якое дачыненне мае кантынентальная Беларусь да ўгодкаў флоту Расіі? Але настальгія па былой велічы ўласцівая не толькі тутэйшым пенсіянерам-вайскоўцам, якія забыліся, што дзяржава нашых продкаў мела выхады на два моры — Чорнае і Балтыйскае — больш за тры стагоддзі таму. Па мінулым сумуюць і ў далёкай ад нас Эфіопіі.

У 1993 годзе пасля працяглай вайны ад Эфіопіі аддзялілася колішняя яе правінцыя — Эрытрэя. Эфіопія страціла не толькі частку тэрыторыі, але і 600 міль узбярэжжа, з марской дзяржавы ў адзін дзень ператварыўшыся ў сухапутную. Таму 15 баявых караблёў — мінаносцаў, тральшчыкаў і ракетных катэраў, што складалі раней эфіопскі ваенны флот, выстаўленыя сёння на продаж у порце Джыбуці. Караблі стаяць на прыколе ўжо чатыры гады — з часу сканчэння грамадзянскай вайны і абвяшчэння незалежнасці Эрытрэі.

Эфіопскі флот набыў сваю колішнюю моц дзякуючы шчыльным сувязям з СССР. Большасць гэтых караблёў пабудавана ў Савецкім Саюзе, з якім сябраваў палкоўнік Менгісту Хайле Марыям. У СССР вучыліся і многія флоцкія афіцэры. Праўда, Эфіопія стала марской дзяржавай задоўга да таго, як патрапіла ў савецкую сферу ўплыву. Яе флот быў закладзены ў 1955 годзе імператарам Хайле Селасі, які і сам прайшоў шмат мораў на вайсковым караблі.

Аднак ніякія ўспаміны не адменяць таго, чаго не пазбегчы. Прысутнасць Эфіопіі на моры стала набыткам гісторыі. Затое надзённым стала пытанне: хто прыйдзе на яе месца, набыўшы флот? Найбольш верагодным прэтэндэнтам з'яўляецца Эрытрэя, але ім цікавяцца і іншыя краіны Чырвонага мора, вакол якога выспявае мноства канфліктаў: Емен ды Джыбуці.

Развітанне з флотам выклікае сапраўдны сардэчны боль у людзей, выхаваных на імперскіх традыцыях. Але адзіныя, хто па-сапраўднаму шкадуе аб страчанай марской велічы,— маракі, што застануцца без працы.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Навіны культуры



У Менску, у бібліятэцы імя Пушкіна адкрылася франка-беларуская зала інфармацыі пра сучасную Францыю. У зале будуць дзейнічаць шапік французскай перыёдыкі, інфармацыйны цэнтр, медыятэка і аддзел французскай мовы і адукацыі. Зала будзе добрым памочнікам у навучанні і працы для студэнтаў, палітолагаў, журналістаў, усіх тых, хто цікавіцца культурай, навукай, сацыяльным, палітычным і эканамічным жыццём Францыі.

Ва ўрачыстым адкрыцці франка-беларускай інфармацыйнай залы прыняў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь **Клод Жаліф**.

**Фота А.НІКАЛАЕВА, БелТА.**

# Даты і падзеі ў лістападзе

**8** — 475 гадоў таму Мікалай Капернік быў абраны візітатарам Вармінскай капітулы і быў ім 2 тэрміны.
— 300 гадоў таму пачалося выступленне сялянаў Крычаўскага старостства супраць пастояў жаўнераў.
— 40 гадоў таму ў Бярэсці адкрыўся музей абароны Брэсцкай крэпасці.

**9** — 140 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Стукаліча, гісторыка, краязнаўца, літаратуразнаўца.

**10** — 200 гадоў таму генерал-губернатар Мікалай Рапнін абвясціў абывацелям Віленскай і Слонімскай губерняў, што з 1797 года прызначаны падаткі — "подушный сбор деньгами и хлебом, также и по прочим статьям принадлежащие казне всякие повинности": "с мещан христиан — по 2 руб. с души, а с евреев по 4 с души; с поселян, включая и цыган... по 85 коп. с души, да хлебом муки по одному четверику, круп с казенных (сялянаў — **З.С.**) по гарнцу, а с помещичьих с 2 душ по гарнцу... на содержание почт со всех обывателей... христиан по 12 коп." Тэрмін платы за І палавіну — 1 сакавіка, за другую — 15 снежня.
— 90 гадоў таму выйшаў першы нумар газеты "Наша Ніва".
— 75 гадоў з дня нараджэння Віктара Роўды, харавога дырыжора, педагога, народнага артыста Беларусі.
— Сусветны дзень моладзі.

**11** — 175 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, бацька якога паходзіў з Беларусі.
— 190 гадоў з дня нараджэння Эміліі Плятар, беларускай фалькларысткі, удзельніцы паўстання 1831 года.

**13** — 160 гадоў з дня нараджэння Яраслава Дамброўскага, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Расійскай імперыі, завадатара паўстання 1863-64 гадоў, генерала Парыжскай камуны.
— 100 гадоў з дня нараджэння Антона Платуна, акадэміка, наркома асветы Беларусі ў 1929-1933 гадах.
— 70 гадоў таму ў польскім сейме прагучаў заклік забараніць Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду — самую шматлікую палітычную арганізацыю ў Заходняй Беларусі.

**14** — 80 гадоў з дня выхаду першых нумароў газет "Дзянніца" (рэдактар-выдавец З.Жылуновіч) і "Swietac" (рэдактар-выдавец Э.Будзька).
— 70 гадоў таму ў Менску пачалася навуковая канферэнцыя па ўнармаванні беларускага правапісу і алфавіту.

**Падрыхтаваў З.С.**

*У старых фаліянтах*

## Нешчаслівае каханне

Сям'я Пятра Біспінга, маршалка шляхты Ваўкавыскага павета, мела звычай частку года праводзіць у Вільні, зведваючы розныя сталічныя куточкі ды ўстановы. Аднойчы Наталля Біспінгішка і яе цётка Тарэза Кіцка намерыліся наведаць заалагічны кабінет Віленскага універсітэта, кіраўніком і кансерватарам якога быў малады навуковец Фартунат Юрэвіч. Ён паставіўся да знакамітых гасцей з належнай увагай і сам асабіста павёў паненак уздоўж шафаў, паказваў усе экспанаты і тлумачыў, распавядаў пра іх паходжанне і значнасць. Зычлівасць Юрэвіча, маладога, элегантнага дзецюка, ягоны прыемны і мілы голас, незаганныя манеры зачаравалі гасцей, і яны запрасілі Юрэвіча да сябе. Фартунат пачаў часта наведваць дом Біспінгаў ды закахаўся ў Наталлю. "Растапіўся, як мянтузовая пячонка",— жартаваў ягоны прыяцель Станіслаў Мараўскі.

Наталліны бацькі, не падазраючы пра пачуцці маладога заолага і свае дачкі, запрасілі Юрэвіча наведаць іх у вёсцы пад час канікулаў. Гаспадары былі вельмі мілымі, хвалілі госця, аж той пачаў думаць пра далейшы крок. Да гэтага, пэўна ж, падштурхнула Юрэвіча і Наталля, не хаваючы свайго пачуцця. І ён рашыў прасіць рукі сваёй каханай. З Вільні Фартунат паслаў Наталлінаму бацьку ліст, у якім усё і выказаў. Ды Біспінг быў не толькі багатым, але і ў роўнай меры і снобам, ганарлівым і да таго ж неразумным. Ён напісаў Юрэвічу ліст, у якім выказаў здзіўленне, што ўбогі шляхціч, "універсітэцкі чыноўнічак", мог мець такія спадзяванні на магнатаву дачку, якія крыўдзяць ягоную сям'ю..."

Юрэвіч не чакаў такога адказу, а таму быў лістом вельмі ўзрушаны. Ён звар'яцеў. Лячэнне не давала вынікаў, аж пасля шасцімесячных пакутаў сябрам удалося знайсці татарына, які лячыў падобных хворых. Юрэвіч выздаравеў і нават вярнуўся на працу ва універсітэт. Вось толькі не мог забыцца пра сваё няшчаснае каханне. Ды не мог прыпомніць, што ж здарылася ў той дзень, калі захварэў. Сябрам удалося пераканаць Фартуната, што ён падупаў гарачкы.

Ды калі ж Юрэвіч пачаў паводле календара аблічваць дні, то здзівіўся, што такая гарачка працягвалася надта доўга. І ўрэшце ўсвядоміў праўду. Жыццё ягонае страціла сэнс. Ён, здольны навуковец, не аднавіў сваёй даследніцкай дзейнасці, а хадзіў без сэнсу па Вільні з агідай да сябе і свайго жыцця. Аж урэшце надумаў з усім скончыць. Ягонае мёртвае цела знайшлі ў рацэ Вілейцы.

**Вычытаў З.С.**



*23 кастрычніка ў Менску адбыўся жалобны мітынг, прысвечаны памяці габрэяў, якія загінулі ў перыяд Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі.*
**Фота А.НІКАЛАЕВА, БелТА.**

*За добрым сталом кажучы*

## Каб пілося, елася і яшчэ хацелася

Беларусы заўсёды былі гасціннымі гаспадарамі, што выражалася не толькі ў багацці ежы-пітва на стале, але і ў выказанні пажаданняў, тостаў. На жаль, многае з фальклорнай тоставай спадчыны невядома сучаснай грамадскасці. Сёння на бяседзе, асабліва сярод людзей маладзейшага ўзросту, пераважаюць "саюзныя" фамільярна-шаблонныя тосты, якія прыйшлі невядома адкуль і невядома на якой мове прамаўляюцца. Дарэчы, і ў фальклорнай літаратуры беларуская тосты адлюстраваны досыць сціпла. Так, у кнізе шматтомнага выдання беларускай народнай творчасці "Выслоўі" (Мн., 1979) яны паказаны толькі на васьмі старонках (160-164, 182-186).

І ўсё ж народная мова яшчэ захоўвае шмат традыцыйных тостаў, якія характарызуюцца непасрэднасцю, шчырасцю, дасціпнасцю, мастацкай вартасцю. Некаторыя з іх узніклі нядаўна, асобныя з'яўляюцца варыянтамі вершаў прафесійных паэтаў ці паэтаў-аматараў.

Прапаную сябрам "Нашага слова" частку тостаў (пераважна вясельных), сабраных на Гарадзеншчыне за апошнія дзесяць гадоў. Яны цікавыя не толькі ў чыста пазнавальным плане, іх можна выкарыстаць у адпаведных жыццёвых абставінах.

Будзьце здаровы, як вадзіца, і нахільны, як вярбіца!
Шчырым сэрцам вас віншую, бо на стале ўжо чарку чую!
Вып'ем гэту чарку, каб маладыя мелі хлеб і скварку, каб жылі багата, і ваша хата не знала ні пракурора, ні адваката!
Дай Бог здароўя на доўгія леты, каб вы пасівелі, як галубы сівыя, каб дачакаліся не толькі дзетак, але ўнукаў і праўнукаў вам на карысць, а Богу найвышэйшаму на пацеху!
Дай жа Божа долю нашаму маладому адну грашовую, другую збажовую, трэцюю дзяціную!
Жадаю, каб у кожным куточку было па сыночку, а на кожнай падушцы — па дачушцы!
Жадаю вам столькі сыноў, колькі ў сшытку лістоў!
Жадаю вам, каб ціха спалася, лёгка ўставалася, спрытна хадзілася!
Жадаю, каб на вас напалі грошы і вы не маглі ад іх адбіцца!
Жадаю, каб малады з маладою жылі як рыбка з вадою!
Жадаю, каб у кожным годзе цвіла, як мак у агародзе!
Жадаю, каб вас было ў хаце, як матылёў у садзе!
Жадаю нашым маладым, каб доўга не спалі, рана ўставалі, добра працавалі, адзін аднаго кахалі і сваіх ніколі не забывалі!
Жадаю маладым здароўя ў ручкі, у ножкі і пасярэдзіне трошкі!

**Мікола ДАНІЛОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*(Працяг будзе.)*

# І смех і грэх

*Пачутае "У Лявона"*

**САМ ЗАРАБІЎ**

Госць шынка хваліцца сваім сынам-школьнікам:
— Яму толькі 16 гадоў, а ён мае ўласны аўтамабіль, зароблены, што праўда, вялікімі высілкамі. Але важна тое, што ён нікога не абманууў, а дамогся ўласнай галавой.
— Як гэта ўдалося? — пытаецца цікаўны сусед.
— Атрымаў ад мяне як падарунак за чацвёрку па матэматыцы.

**ГАРЫ ЯНО ГАРАМ**

Афіцыянт нясе праз залу шынка шашлык, які палае блакітным полымем. Госць шынка, якая ўпершыню бачыць такое, пытаецца ў бывальца:
— Што гэта?
— Ды нічога асаблівага,— адказвае той,— звычайнае пражанае мяса пад назвай "Гары яно гарам" — для песімістаў.

**ТАЛЕНТ**

Вядомы артыст, які завітаў у шынок, хваліцца сваім поспехам у гледачоў:
— Бачу, што толькі тут я магу адпачыць ад аматарак майго таленту — ловяць каля пад'езда, кватэра завалена лістамі...
— А пра што пішуць? Прызнаюцца ў каханні?
— Не толькі... Адзін прыслаў падзяку: ягоны дзядзька памёр ад смеху на маім бенефісе, пакінуўшы пляменніку ўсю маёмасць.

**ДЗЕЛЯ КАНТРАСТУ**

Лёля радзіць маладому госцю шынка, як выбіраць кандыдатку на жонку:
— Ці ведаеце, шаноўны, што кантрасты прываблiваюць і што самыя шчаслівыя сем'і, дзе партнёры значна адрозніваюцца адзін ад другога?
— Так, так, а таму я і шукаю дзяўчыну, якая працуе.

**СРОДАК**

Дзве госці шынка гутараць пра хатняе спратанне:
— А што ты выкарыстоўваеш для мыцця падлогі?
— Мужа.

**ПЕРАСЦЯРОГА**

Бывалец шынка радзіць маладому сябру:
— Асцерагайся гэтай дзяўчыны...
— А чаму?
— Яна як друкарская машына: націснеш выпадкова ў неадпаведным месцы, а выйдуць неадпаведныя словы.

**АПРАЎДАННЕ**

Госць шынка скардзіцца суседу:
— Засудзілі майго сыночка, хоць ён і мэў апраўданне.
— Якое?
— Ну гэты аўтамабіль доўгі час стаяў каля вайсковых магілак, дык сын думаў, што ягоны ўладальнік памёр.

**Учуў З.С.**

*Пароды*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

## Месяцалёт

*Хаця журбота ціхая*
*вярэдзіць мне душу,*
*яшчэ, сябры, я дыхаю,*
*яшчэ я штосьці пішу.*
*.........*
*Куды ты, чэрвень*
*басаногі,*
*бяжыш па сцежцы*
*палявой?*
*Я пастарэў,*
*аслаб намнога*
*і не ўганюся за табой.*
**Хведар Жычка.**

Куды ты, чэрвень басаногі?
А ты куды, абуты май?
Не разбіраючы дарогі,
ляцяць —
як можаш, даганяй! —
удалеч месяцы.
Спыняцца
не хоча нават лістапад.
За вамі мне, на жаль, не
ўгнацца.
А як бы ўгнацца быў я рад.
Ды што рабіць,
хада цішэе,
і ў сэрца ўкраўся нейкі шум.
Хаця і дыхаю яшчэ я,
і нават больш таго — пішу.
Калі ж рыфмуецца не тое,
то гэта не вялікі грэх.
Маленства ўспомню
залатое —
не горш, чым вы, і ўдалеч
бег.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1210

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2705 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 13.11.1996 г. у 15 гадзін.